ТВ-программа на неделю

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№ 183 (1247)

Субота, 29 верасня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні — 3—8 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — +9...+11, Мінску, Гомелі — +10...+12, Гродне — +11...+13, Брэсце — +12...+14.

Надвор'е ў наступныя двое сутак: 30-га — без ападкаў, вецер слабы, на большай частцы тэрыторыі замаразкі да 0...-3, удзень +9...+14; 1-га кастрычніка часам дажджы. Вецер паўднёвы, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +4...+9, удзень +11...+16.



**ПУЛЬС**

## Дожинки



*Пока в Мозыре гуляют помпезные дорогостоящие "Дожинки-2001", жизнь идет своим чередом — в предзимних заботах. Как у Марии и Виктора Апанович из деревни Волковичи Гродненской области.*

**Фото IREX/ProMedia.**

## Выплата кампенсацый былым вязням, дэпартаваным у Аўстрыю

**26 верасня ў Мінску Аўстрыйскі фонд прымірэння і Беларускі рэспубліканскі фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне" сумесна са 103 установамі ААБ "Беларусбанк" прыступілі да выплаты кампенсацый былым вязням прымусовай і нявольніцкай працы ў сферы прамысловасці і сельскай гаспадаркі, дэпартаваным пры нацысцкім рэжыме на тэрыторыю Аўстрыі.**

Апрача таго, выплаты будуць рабіцца дзецям, дэпартаваным з адным з бацькоў або абодвума бацькамі ва ўзросце да 12 гадоў, а таксама маці, якія вымушаны былі нараджаць дзяцей у спецыяльных клініках для вязняў прымусовай працы.

Напрыклад, вязні нявольніцкай працы атрымаюць аднаразовую плату ў памеры 15.000 нямецкіх марак, вязні прымусовай працы ў сферы прамысловасці — 5000, вязні прымусовай працы ў сферы сельскай гаспадаркі атрымаюць 2857 нямецкіх марак. Дзеці атрымаюць сумы, роўныя сумам іх бацькоў, а маці, якія нараджалі дзяцей у спецыяльных клініках, атрымаюць дадатковую плату, роўную 714 нямецкім маркам.

**Вольга АСІПЕНКА.**



## Суд па справе Валерыя Ігнатовіча павінен быць адкрытым

**Вядомы юрыст і праваабаронца, кіраўнік Цэнтра прававой дапамогі Беларускай асацыяцыі журналістаў Міхаіл Пастухоў перакананы, што суд па справе Валерыя Ігнатовіча і яшчэ некалькіх чалавек, якія абвінавачваюцца, у прыватнасці, у выкраданні аператара ГРТ Дзмітрыя Завадскага, павінен быць адкрытым.**

У інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН прафесар Пастухоў сказаў, што ўлады наўмысна зрабілі працэс (пачнецца 23 кастрычніка) закрытым, каб грамадскасць не даведалася пра ўсе абставіны гэтай справы. Аднак Беларуская асацыяцыя журналістаў тым не менш мае намер звярнуцца ў Мінскі абласны суд з тым, каб прадстаўнікам гэтай арганізацыі, членам якой з'яўляўся Дзмітрый Завадскі, было прадастаўлена права назіраць за працэсам.

## У суботу, 29 верасня, ва ўрочышчы Курапаты — талака

**Тэрыторыя Мемарыяльнага комплексу на месцы масавых пахаванняў ахвяр палітычных рэпрэсій будзе добраўпарадкавана. І адначасова талака стане яшчэ адной акцыяй супраць магчымага знішчэння часткі Мемарыяла пры рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтадарогі.**

Між тым актывісты "Маладога фронту" і "Беларускай партыі свабоды" працягваюць кругласутачнае дзяжурства ва ўрочышчы. Нягледзячы на замаразкі, каля дзесяці чалавек правялі там ужо трэцюю ноч у палатках і каля вогнішча. Яны запалілі на алеях і каля 30 крыжоў, устаноўленых на месцы, дзе павінна прайсці новая паласа кальцавой аўтадарогі, каля сотні свячэй і падтрымліваюць агонь, на працягу ночы мяняючы свечы. Над імправізаваным лагерам узняты нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Ад Уладзіміра Арлова патрабавалі распіску

**Кіраўніцтва Беларускай аграрна-тэхнічнай акадэміі (БАТУ) запатрабавала ад вядомага пісьменніка Уладзіміра Арлова не дапускаць на сустрэчы са студэнтамі выказванняў супраць дзеючай улады.**

Як паведаміў БелаПАН удзельнік акцыі, старшыня Першамайскай раённай рады "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Шагулін, гэтая сустрэча, прысвечаная прэзентацыі другога выдання кнігі Арлова "Адкуль наш род", адбылася вечарам 26 верасня. Яна планавалася даўно, аднак кіраўніцтва акадэміі, ведаючы грамадзянскую пазіцыю пісьменніка, прапанавала правесці сустрэчу пасля выбараў. "Прычым нам недвухсэнсоўна намякалі пра змест выступленняў, а 24 верасня намеснік рэктара па выхаваўчай рабоце прапанаваў кіраўніку дзеючай у акадэміі арганізацыі ТБМ, дацэнту Юліяну Бізэ: няхай Арлоў дасць распіску, што падчас сустрэчы не будзе выказвацца супраць дзеючага рэжыму", — расказаў Шагулін. Паводле яго слоў, такую распіску пісьменнік не даў і правёў сустрэчу ва ўласцівым яму далікатным тоне.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Міраслава Гангадзе папярэджвае беларускія ўлады

**Жонка забітага ўкраінскага журналіста Георгія Гангадзе, якая атрымала палітычны прытулак у ЗША, звярнулася да Савета Еўропы і іншых міжнародных арганізацый з просьбай дапамагчы з паўторным незалежным следствам у справе знікнення яе мужа, а таксама зацікавілася беларускай сітуацыяй.**

Міраслава Гангадзе мела некалькі сустрэч з жонкамі зніклых у Беларусі палітыкаў і журналіста. Яна адсочвае развіццё беларускіх падзей і ў інтэрв'ю для "Ю.С.Ньюс" у Страсбургу зазначыла, што жонкі зніклых беларусаў знаходзяцца ў яшчэ горшым становішчы, чым яна.

"Цяпер Беларусь у такой сітуацыі, што ніводная міжнародная структура не мае магчымасці ўплыву на Беларусь і яе ўлады. Беларускія ўлады зусім нічога не робяць, каб паспрыяць расследаванню і знайсці адказы на пастаўленыя грамадствам пытанні. Я хачу сказаць беларускай уладзе, што за ўсё — за ўсе злачынствы, за ўсё, што яна зрабіла і зробіць, — ёй прыйдзецца адказваць, рана ці позна. Калі гэта будзе не сёння, дык заўтра", — заявіла Міраслава Гангадзе.

"Я лічу, што трэба змагацца, і бачу, як беларускія жонкі гэта робяць. Гэта доўгі працэс, і ён не будзе лёгкім. Беларускае грамадства павінна само вырасці і самаабнавіцца. Я са свайго боку пастараюся ствары́ць тыя механізмы, якія б дапамаглі забяспечыць ціск на ўлады Беларусі ды іншых дзяржаў. Таму зараз для мяне галоўная задача — стварыць міжнародныя механізмы ціску і ўплыву на ўрады, якія знішчаюць свабоду слова, знішчаюць апазіцыйных палітыкаў і журналістаў", — сказала ўдава Георгія Гангадзе.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## На Брэстчыне небывалая колькасць ягад і грыбоў

**На думку кіраўніцтва Брэсцкага аблспажыўсаюза, сёлета можна нарыхтаваць небывалую колькасць садавіны, ягад і грыбоў.**

Паводле апошніх звестак, ужо нарыхтавана 37 тон грыбоў, у той час як летась у насельніцтва было куплена толькі 18. Нарыхтавана 754 тоны чарніц (летась — на 210 тон менш), 56 тон журавін, 23 тысячы тон яблыкаў. Адзіным стрымліваючым фактарам з'яўляецца недахоп у аблспажыўсаюза сродкаў для разлікаў за здадзеную насельніцтвам прадукцыю.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## Рабочыя МТЗ змагаюцца за зарплату

**28 верасня прыкладна ў 11 гадзін раніцы каля 300 рабочых кавальскага, ліцейнага і некаторых іншых цэхаў Мінскага трактарнага завода перакрылі рух транспарту па вуліцы Даўгабродскай насупраць галоўнай прахадной.**

Прычынай акцыі паслужыла двухтыднёвая затрымка выплаты заработнай платы. Спачатку зарплату абяцалі даць 13—14 верасня, але дагэтуль яна не выплачана. 27 верасня па заводскім радыё неаднаразова аб'яўлялі аб тым, што выплаты пачнуцца раніцай 28-га. Аднак гэтага не адбылося. Паводле слоў удзельнікаў акцыі, затрымкі з выплатай заробку адбываюцца рэгулярна на працягу некалькіх апошніх месяцаў.

**БелаПАН.**

## Рэгулюе рынак

**Пастановай Савета міністраў скарочаны пералік сацыяльна-значных тавараў (работ, паслуг), цэны (тарыфы) на якія рэгулююцца Міністэрствам эканомікі, аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам.**

З пераліку выключаны: малочныя прадукты — малако і кефір (тлустасцю да 2,5 працэнта ўключна без дабавак), смятана (тлустасцю да 20 працэнтаў уключна), тварог (тлустасцю да 9 працэнтаў уключна); малочныя сумесі, мясныя і плодаагароднінныя кансервы для дзіцячага харчавання; бульба і плодаагароднінная прадукцыя; тавары для дзяцей; паслугі хімчысткі і пральні (уключаючы самаабслугоўванне).

У сярэдзіне ліпеня гэты пералік, зацверджаны пастановай урада ад 18 чэрвеня 1999 года, ужо скарачаўся. Перасталі рэгулявацца цэны на макаронныя вырабы, мыла, камбікармы, якія рэалізуюцца насельніцтву, а таксама паслугі па рамонце швейных і трыкатажных вырабаў.

Цяпер у пераліку засталося 13 пазіцый: хлеб і хлебабулачныя вырабы; масла жывёльнае (за выключэннем дэсертнага, садавіннага і шакаладнага); ялавічына, свініна, вараныя каўбасныя вырабы (уключаючы сасіскі і сардэлькі) 1-га і 2-га гатункаў, а таксама безгатункавыя; соль; цукар; запалкі; рамонт абутку і некаторыя іншыя тавары і паслугі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**ПОСТАЦІ**

## Народнаму паэту Беларусі, грамадскаму дзеячу, добраму сябру і актыўнаму аўтару "Народнай волі" Нілу Гілевічу заўтра спаўняецца 70 год.

## Віншуем, дарагі Ніл Сымонавіч!



*Ніл ГІЛЕВІЧ*

### Шлях да Беларусі

*За векам век*
*плыве-цячэ,*
*А мы ідзем, ідзем...*
*І што ж?*
*О, як далёка нам яшчэ*
*Да Беларусі!*

*Ужо няўсцерп нам*
*крыж пакут,*
*І мы крычым,*
*крычым, але —*
*Не дакрычаліся пакуль*
*Да Беларусі.*

*А можа быць,*
*яна — міраж,*
*І ўсе мы трызнім?*
*Бо чаму ж*
*Не далятае голас наш*
*Да Беларусі?*

*Відаць, пракляцця*
*знак ляжыць*
*На нас ад роду, і таму*
*Так цяжка шлях нам*
*церабіць*
*Да Беларусі.*

*Равуць вятры,*
*грымяць грамы,*
*Пыл засціць вочы нам,*
*і ўсё ж,*
*І ўсё ж мы дойдзем,*
*дойдзем мы*
*Да Беларусі!..*

**ТЕЛЕСМЕРТЬ**

## Популярный российский канал ТВ-6 ликвидирован

*Сенсационная и откровенно грустная весть пришла из Москвы. Как передали в пятницу российские СМИ, "арбитражный суд Москвы постановил ликвидировать телекомпанию ТВ-6". Решение вынесено по иску дочерней структуры бизнес-империи "ЛУКойл".*

**Александр СИЛИЧ**

История с ликвидацией ТВ-6, как сообщается, "тянется с весны". Тогда один из акционеров телеканала — негосударственный пенсионный фонд "ЛУКойл-Гарант", владеющий 15% акций, — подал в Московский арбитражный суд иск о ликвидации ЗАО "Московская независимая вещательная корпорация". С самого начала в давлении на ТВ-6 многим аналитикам виделся политический заказ Кремля. Как известно, на канал ТВ-6, принадлежащий Борису Березовскому, весной этого года пришла группа журналистов НТВ, которые не захотели работать у нового собственника телекомпании Гусинского — "Газпрома". Тогда Березовский грозился сделать из ТВ-6 федеральный оппозиционный канал, что, вне всякого сомнения, сильно беспокоило Кремль. По крайней мере, в самом "ЛУКойл-Гаранте" не отрицали, но и не подтверждали политического заказа, а материнская компания никак не комментировала инициативу "дочки".

Теперь всем стало ясно, что у Березовского ничего не получилось. А его детище ТВ-6 влачит, как утверждают специалисты, жалкое существование и не представляет серьезной угрозы Кремлю. Можно было бы и оставить прозябать канал, дожидаясь, пока он не проест оставшиеся деньги и не развалится. Однако нелюбовь Кремля к Березовскому, как утверждают, все еще сильна. Видимо, этим и объясняется желание не спустить суд на тормозах, а отобрать у Бориса Абрамовича последнюю медиасобственность в России.

Комментируя журналистам решение суда, гендиректор "ЛУКойл-Гарант" Михаил Бережной заявил: "Мы не преследуем никаких политических целей, а просто отстаиваем свои права как акционера, которые неоднократно нарушались".

Глядя из Минска на нынешние события в Москве, невольно испытываю эффект "дежавю" — ловлю себя на мысли, что где-то я это уже видел. Потом вспоминаю наконец: Минск, 1996 год, независимая радиостанция "101,2". Радиостанция вещала на белорусском языке и регулярно говорила о власти все, что она о ней думает. Накануне референдума станцию под надуманными предлогами в спешке закрыли. Мотивация для закрытия была примерно той же: экономические претензии, необходимость срочного ремонта антенны....

Антенну якобы починили, только после этого частоту отдали одиозной молодежной организации БПСМ, которая за последние пять лет отметилась бесконечным рядом финансовых скандалов и в конечном счете частоту "завалила". Теперь 101.2 слушают разве что любители попереключать каналы: станция непопулярна.

Зная известность, влиятельность и популярность, а особенно среди российской интеллектуальной элиты, бывших ведущих НТВ, а ныне ТВ-6, суперпопулярной программы "Куклы", нынешняя кремлевская администрация, похоже, решила перенять у руководства Беларуси неоригинальные методы борьбы со свободой слова.

Может быть, белорускім властям стоит обратиться в Кремль с требованием заплатить за соответствующий патент. А что, дополнительные финансовые средства нам в государственном бюджете не помешают...

**СПОРТ**

## Буцы — на цвік

### Футбалісты барысаўскага БАТЭ выбылі з розыгрышу Кубка УЕФА

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

0:2 — дома і 0:4 — на выездзе сведчаць аб тым, што наш самы перспектыўны калектыў, іграki якога амаль цалкам уваходзяць у маладзёжную зборную краіны, не меў ніякіх шанцаў у барацьбе з грандам сусветнага футбола. Без розніцы, з двума Віталямі — Кутузавым ды Рагожкіным, ці без іх.

Такім чынам, усе пяць каманд, якія стартавалі ў гэтым сезоне з нашага боку ў еўракубках, не здолелі выступіць у іх дастойна. Хаця (і гэта пэўны плюс) яны навучыліся выйграваць у футбалістаў з Фарэрскіх астравоў, Люксембурга, Ізраіля ды Грузіі. А вось сапернікі са Славеніі, Балгарыі, Германіі ды Італіі аказаліся не па зубах.

18 матчаў правялі ў час свайго "пакарэння" футбольнай Еўропы "пяцёра смелых" і толькі ў пяці з іх атрымалі перамогі. Між тым розніца забітых і прапушчаных мячоў склалася на іх карысць, дзякуй двум буйным поспехам супраць тых жа фарэрцаў ды люксембуржцаў на сваіх палях. Хаця, з другога боку, аматары ў хатніх гульнях дабіліся з нашымі прафесіяналамі пачэснай нічыёй! Цікава, што акрамя толькі балгарскага ЦСКА, усе нашы "крыўдзіцелі" таксама сышлі з дыстанцыі адразу пасля наступных паядынкаў.



*БАТЭ гуляе з "Міланам", Мінск, 20 верасня 2001 г.*

**Фота IREX/ProMedia..**

Правальнае выступленне лідэраў зноў пакідае нам абрыдлую, але справядлівую ролю аутсайдэраў у час жараб'ёўкі на наступны сезон і дае магчымасць стартаваць толькі з самых нізоў ва ўсіх трох кубках. Але колькасць прадстаўнікоў скароціцца да чатырох замест пяці, таму што, прабачце, "халявы" за справядлівую гульню на гэты раз не прадбачыцца. Як вядома, снарад не можа трапіць двойчы ў адну варонку і квота "Fair play" гарантавана абміне Беларусь.

Мабыць, не трэба так сумаваць аб няўдачы. Футбол — гэта ж гульня, таму можа здарыцца ўсялякае. Але паспрабуем мысліць лагічна.

Бабруйская "Белшына", БАТЭ, "Дынама" Мінск, мазырская "Славія" ды салігорскі "Шахцёр" — нашы паўпрэды ў сёлетніх кубках, зараз займаюць у нацыянальным першынстве адпаведна (увага!) 1-е, 2-е, 4-е, 5-е, 7-е месцы. Можна сказаць, мы бачым красу беларускага футбола! Хутчэй за ўсё хтосьці з названых калектываў стане чэмпіёнам краіны, і ўвогуле дзве ці нават тры каманды з гэтых пяці зноў жа будуць заяўлены ў турніры...

Атрымліваецца, што нам прыйдзецца як заўжды чакаць падобныя вынікі матчаў з іх удзелам і на пачатку будучай восені глядзець па тэлевізары, як гуляюць іншыя, больш удачлівыя замежныя клубы. Ці гэта не сорам: кубкавыя баталіі ў свеце яшчэ не паспелі як след распачацца, праходзяць толькі кваліфікацыйныя раунды, а мы ўжо павесілі буцы на цвік. І так кожны год. А такое паняцце, як "Ліга чэмпіёнаў", для беларускіх футбалістаў бадай што кітайская грамата.

Не вельмі ўсё ладна, трэба прызнаць, у нашых бліжэйшых славянскіх суседзяў. Адразу вылецелі расійскія "Анжы", "Чарнаморац", "Тарпеда", данецкі "Шахцёр". Хутчэй за ўсё вельмі хутка сыдуць кіеўскае "Дынама", маскоўскія "Спартак" з "Лакаматывам", але амаль рэгулярна хтосьці з іх трапляе ў тую самую першую фазу групавога турніру Лігі чэмпіёнаў...

Нам жа — як да неба! Вось і застаецца толькі зноў чакаць, з года ў год, сустрэч з тымі ж фарэрскімі рыбакамі ды андорскімі, зусім не сівільскімі, цырульнікамі.

ПОСТАЦІ

# “І ЎСЁ-ТАКІ Я ВЕРУ...”

*...Даўным-даўно, напрыканцы 50-х (а бачыцца, як сёння) шмат каго са студэнтаў БДУ вабіла знакамітая 58-я аўдыторыя на філфаку. Вечарамі, пасля заняткаў, там ладзіліся цікавыя сустрэчы, і асабліва ажыўлена было, калі выступалі з вершамі нашы ж, філфакаўскія хлопцы: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін. І крыху старэйшы за іх Ніл Гілевіч.*

*Як зачараваныя, слухалі мы прамяністыя, акрыленыя вершы Ніла — натхнёнага юнака з пышнай чупрынай і звонкім голасам, ганарыліся, што наш аднакашнік ужо на той час быў сябрам Саюза пісьменнікаў. Ад’язджаючы на працу ў розныя куткі Беларусі, мы бралі з сабою першую, танюткую кніжачку маладога паэта з назвай “Песня ў дарогу”.*

*Тое было пачаткам яго шырокай дарогі да чытача, высокага творчага ўзлёту, які доўжыцца і па сённяшні дзень. Пранікнёнае, ускалыханае ў глыбіні душы слова Народнага паэта, Вялікага грамадзяніна Беларусі, адданага змагара за Адраджэнне Бацькаўшчыны Ніла Гілевіча знайшло шлях да сэрцаў мільёнаў людзей, стала каштоўнейшым скарбам нашай нацыянальнай культуры.*

*...Пабялела галава Ніла Сымонавіча, пасуровеў яго твар: усе трывогі, надзеі і боль Радзімы — яго асабістыя. Новыя грані характару набыла і яго Муза. Але ў самым галоўным яна ўсё тая ж: маладая, неўтаймаваная, поўная глыбіні думкі і напалу пачуццяў.*

*Напярэдадні 70-годдзя Ніла Гілевіча карэспандэнт “Народнай волі” сустрэўся з юбілярам.*



*У Брэсцкай крэпасці Мікола Матукоўскі, Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў. Пачатак 80-х.*

**— Ніл Сымонавіч, Вам помняцца маладыя гады, калі мы свята верылі: хутка збудуем царства справядлівасці, рай на зямлі — камунізм? Ці даводзілася ў тую пару, згодна з традыцыяй савецкай літаратуры, пісаць на гэтую тэму? І наогул — з якім пачуццём Вы перачытваеце свае ранейшыя творы?**

— Перагортваць даўнія, пачатковай пары творы — як і перагортваць у памяці свае юначыя гады. З вышыні паважанага ўзросту бачыш не толькі тое, што радуе, чым нават можна паганарыцца, але і тое, на што глядзіш як на непазбежную даніну маладой наіўнасці, недасведчанасці, празмернай даверлівасці. Не магу сказаць, што гэта апошняе мяне дужа засмучае. Маральнай апорай мне ў гэтым рэтраспектыўным паглядзе ёсць тое, што і ў сваёй веры і ў сваіх марах я быў шчыры, не хлусіў і не крывадушнічаў. Канешне, крыўдна ўсведамляць, што на многае так позна адкрыліся вочы, што так доўга і народ, і яго паэтаў трымалі ў асляпленні. Але калі жывеш верай у светлае, у добрае, у высокае — дык, можа, гэта якраз тое, што для паэзіі перш за ўсё і трэба. Ну не з пошласці ж і цынізму нараджаецца паэзія! Зрэшты, не бачу падстаў, каб надта ўжо раскайвацца за маю даніну гэтай “традыцыйнай”, як вы кажаце, тэме. Перагартаў неяк сваю першую кніжыцу вершаў — жыццё ў самым чалавечым сэнсе слова. Натуральнае, нявыдуманае жыццё з яго маладымі радасцямі і засмучэннямі.

**— Аднойчы Вы сказалі: “Паэзія — вечная Мара аб шчасці, вечная прага гармоніі ў свеце, Згоды і Ладу між людзьмі”. У чым сёння бачацца Вам сэнс творчасці і прызванне творцы, вечна надзённая праблема “паэт і час”?**

— Сёння, у пару жыццёвай восені, яшчэ з большай пэўнасцю скажу тое ж самае. Мяняюцца эпохі, мяняюцца сацыяльна-эканамічныя сістэмы, дзяржаўна-палітычныя рэжымы — але галоўны сэнс і назначэнне паэзіі застаюцца тымі ж. І місія паэта, творцы — таксама. Вядома, кожная новая эпоха накладае на творчасць свой адбітак, як кажа прымаўка: новы час — новыя песні, — новыя сюжэты, вобразы; адбываецца абнаўленне жанраў і форм. І аднак жа па самай глыбіннай сутнасці паэзія застаецца паэзіяй, а менавіта — сцвярджэннем дабрыні і красы ў жыцці, умацаваннем згоды і ладу паміж людзьмі. Больш высакароднай і больш актуальнай, чым гэта, справы чалавецтва не прыдумала.

**— На Вашым багатым творчым полі, дбайна абробленым за паўвека нястомнай працы, цвітуць розныя жанры: паэзія, проза, драматургія, вершаваная сатыра, творы для дзяцей, мастацкія пераклады, літаратурна-крытычныя даследаванні. І ўсё ж у першую чаргу Вы — паэт-лірык. Апошнім жа часам у Вашых творах найбольш выразна гучыць публіцыстычная нота, у сувязі з чым нярэдка чуюцца папрокі...**

— Можа, і не пагаджуся, што толькі ў апошні час у маёй паэзіі пераважае публіцыстычная нота. Хіба што “апошнім часам” вы лічыце і канец 80-х — пачатак 90-х гадоў? Бо і тады вершаў публіцыстычнага характару, “барыкадных” па духу, пісалася нямала. З другога боку, тры самыя апошнія гады ў маім творчым жыцці пазначаны не толькі трыбуннымі вершамі. Так, у 1997—1999 гадах напісана кніга лірычных мініяцюр “Сямірадкоўі” (уключана ў трэці том Збору твораў), у 1997—1998-х — паэма “Лодачкі”, у 1999-м — драматычная паэма “Паланез Агінскага” і дваццаць эпічных вершаў па фальклорных матывах (цыкл “Сюжэты”). У 2000—2001-х вершаў увогуле напісаў небагата, час пайшоў на п’есу “Ведзьма” (друкуецца ў “Маладосці”) і на апавяданні, аб’яднаныя рубрыкай “Забаўныя гісторыі” (відаць, гэта будзе цэлая кніга, працу над якой працягваю).

**— Паўтара дзесятка год таму, калі выйшаў у свет Ваш арыгінальны і, на мой погляд, этапны твор — раман у вершах “Родныя дзеці”, адразу стала відавочна: гэта — высокамастацкая энцыклапедыя сучаснага жыцця, прасякнутая сыноўскай пяшчотай да роднай зямлі, трывогай за яе лёс і духоўнасць грамадства. Помню, прыйшла я на пошту паслаць раман прыхільніцы Вашай творчасці ў Новасібірск, дык паштарка ўгаварыла мяне напраміль Бог хоць на дзень затрымаць адсылку бандэролі: у іх сям’і будзе свята — прачытаць кнігу, якую ўпадабалі яны яшчэ па ўрыўках у “Полымі”... Помню, як “Родных дзяцей” з захапленнем чыталі ўголас у бальнічнай палаце. Як у перапоўненай зале сельскага Дома культуры з усёй шчырасцю дзякавалі Вам вяскоўцы за мастацкае ўвасабленне таго, што хвалюе і апякае сэрца. Але кніга была выпушчана мізэрным накладам, як, дарэчы, і многія творы іншых беларускіх літаратараў...**

— А я радаваўся таму накладу — 6000. Вядома, калі б ён быў хаця б у два разы большы — чытачы сказалі б дзякуй, бо наклад разышоўся тады з неверагоднай для паэзіі хуткасцю і многім кніга не дасталася, шукалі яе ў раённых кнігарнях, у глыбінцы. Попыт і тады, і пазней на гэты мой раман у вершах трымаўся, так бы мовіць, на вышыні. Твор быў уключаны ў школьную праграму па літаратуры, выдадзены ў Маскве ў перакладзе на рускую мову. Але вось што хацеў бы ў сувязі з гэтым сказаць: чытацкі попыт ані ў якой меры не быў падагрэты літаратурнай крытыкай, у друку не з’явілася ніводнай рэцэнзіі! Кніга праклала дарогу да чытачоў сама, не абавязаная прафесійным ацэншчыкам нават і на грош. Цікава, ці не праўда?

**— На пачатку 90-х, на ўздыме новай хвалі беларускага Адраджэння маштабна і глыбока разгарнуўся Ваш талент і гарт грамадскага дзеяча, нястомнага змагара за дэмакратыю і незалежнасць Бацькаўшчыны, вяртанне нашай гістарычнай памяці, багатай духоўнай і культурнай спадчыны продкаў. На чале адпаведнай Камісіі Вярхоўнага Савета 12-га скліканья разам з паплечнікамі Вы будзілі грамадскую думку, укладвалі творчую энергію ў ажыццяўленне Закона аб мовах. Многае тады абнадзейвала, а цяпер... Што чакае нашу родную мову, калі жывы працэс яе адраджэння жорстка спынены антыбеларускай дзяржавай?**

— Наконт таго, што працэс спыніўся... Так, ён не сам спыніўся: яго гвалтам, нахабна і цынічна спыняюць. Антыдэмакратычныя і антыбеларускія сілы імкнуцца павярнуць ход падзей у супрацьлеглы бок. Многае ім ужо ўдалося — асабліва што датычыць мовы. Што да гістарычнай памяці — працэс яе абуджэння, насуперак усяму, паглыбляецца. Скінуць з франтона і разбіць нацыянальны Герб, сарваць і падзерці на матузы нацыянальны Сцяг — справа, як усякая дурная справа, няцяжкая. А вось разбіць і раздзерці ідэю нацыянальнага Адраджэння, заглушыць і здратаваць абуджаную ў душах і розумах людзей гістарычную самасвядомасць — гэта задачка неймавернай цяжкасці, і справіцца з ёй гэтыя сілы не паспеюць. Самасвядомасць пашыраецца, расце — дзякуючы творам беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, публіцыстаў, незалежным СМІ, у тым ліку замежным. За нязначным выняткам, беларуская моладзь, асабліва студэнцкая і вучнёўская, у афіцыйную хлусню не верыць і ўзбройваецца ведамі па гісторыі Бацькаўшчыны аб’ектыўнымі, сапраўды навуковымі. Значыць, намаганні скідальнікаў і раздзіральнікаў, глушыльшчыкаў і дратавальшчыкаў — дарэмныя. Раней ці пазней іх спасцігне вялікае расчараванне. Ну а ганьба ім забяспечана ўжо даўно. Ды такая — што не адмыюцца.

**— У свой час у Вас было шмат сяброў на абсягах былога Саюза, у краінах Еўропы. Сваімі выдатнымі перакладамі з розных моў, асабліва паэтаў славянскага свету, Вы збліжалі народы, узбагачалі духоўныя абсягі беларусаў, заваявалі шырокае прызнанне за межамі Беларусі. Што сталася з гэтымі творчымі сувязямі пасля развалу СССР і былой “сацыялістычнай садружнасці”?**

— На вялікі жаль, яны парваліся. Нават з самымі блізкімі літаратурамі, як руская, украінская, польская, балгарская, — сёння нашы ўзаемасувязі хутчэй сімвалічныя. Як гэта кажуць: ледзьве-ледзь зіпаюць. І гэта — вельмі кепска. Для ўсіх разам і для кожнай краіны ў асобку. Асабліва для такой, як Беларусь, — ізаляванай палітычна, штучна пазбаўленай шырокіх рознабаковых кантактаў з вялікім светам. Асабіста я не чакаў — тады, перад развалам СССР, — што адбудзецца такі крах наладжаных літаратурных узаемадачыненняў. Больш таго, уяўлялася, што будзе наадварот, што суверэнная, незалежная Беларусь зможа разгарнуць іх шырэй, чым было, бо — самастойная ж, як пісаў Купала — “сама сабе гаспадыня”. У іншых самастойных дзяржавах Еўропы (як і Беларусь — невялікіх) гэтак і ёсць. Для кантактавання і супрацоўніцтва літаратараў адной добрай волі, якой нам не пазычаць, недастаткова. Патрэбен матэрыяльна-фінансавы грунт, прасцей — грошы. І на творчыя камандзіроўкі, і на правядзенне вечароў, і галоўнае — на выданне перакладаў, аплату працы аўтарам і перакладчыкам. У беднай краіне на гэта грошай няма. Будзем чакаць, калі добры дзядзечка зробіць нас багатымі?

Скажаце: а прысвечаны перакладам тоўсты штомесячны часопіс “Всемирная литература”? Так, ёсць такое выданне ў Беларусі. Але ж гэта — рускі часопіс, ён забяспечвае працай і заробкамі рускіх перакладчыкаў. На рускі часопіс грошы, дый вялікія, знайшліся. На беларускі — няма.

**— Калісьці мне пашчасціла быць сведкай: сам Якуб Колас, пачуўшы Ваш верш, пацісну Вам руку, па-бацькоўску благаславіў на нялёгкі шлях служэння Слову, працяг лепшых традыцый вялікіх папярэднікаў. А каму з сённяшніх маладых Вам самому хацелася б пацісну руку, што радуе і засмучае Вас у новай літаратурнай плыні?**

— Радуе якраз тое, што ў большыні сваёй у паэзію ідуць маладыя людзі, нераўнадушныя да нацыянальнай ідэі, да лёсу Бацькаўшчыны. Гэта — вельмі важна, сёння, я лічу, гэта — галоўнае, бо на такіх гістарычных зломах, у такія лёсавызначальныя для краіны моманты апрача прыроднага паэтычнага таленту трэба мець і гарачае патрыятычнае сэрца, і грамадзянскую мужнасць. Што да таленавітасці маладых — ну гэта ўжо колькі каму Бог даў. За многіх і ў гэтым сэнсе можна таксама парадавацца. Як і за сур’ёзнасць стаўлення да свайго прызвання, да працы над радком і словам. Праўда, апошняе датычыць найбольш таленавітых, што і зразумела: чым большы дар ад Бога — тым больш працы ад сябе самога. Так было адвеку.

**— Завяршаючы свой колішні артыкул аб пакутным шляху Бацькаўшчыны да Будучыні перакананым сцвярджэннем “І ўсё-такі я веру”, ці паўторыце Вы гэтыя словы з ранейшай упэўненасцю? Ці дойдзем мы, у рэшце рэшт, да Беларусі? Ці шум беларускіх бяроз будзе поўніцца сумам аб дарагім і нязбытным?**

— Бясспрэчна, паўтару. Яшчэ з большай упэўненасцю, чым тады. І гэта не самасуцяшэнне, не прыемная гульня ў аптымізм. Рэч у тым, што сітуацыя ў свеце пасля таго, што ў апошні час адкрылася людзям (яшчэ не ўсім), будзе істотна мяняцца. Ранейшай бяспечнасці да дыктатарскіх рэжымаў у цывілізаваным свеце не будзе. Усе будуць вымушаны маральна і духоўна мабілізавацца на вырашэнне глабальных эканамічна-сацыяльных і экалагічных праблем. Панаванне рэжымаў незацуглянага самадурства стане немагчымым. У выніку перайначыцца да лепшага і лёс такіх краін, як Беларусь.

**— Шаноўны Ніл Сымонавіч! Прыміце ад імя калектыву рэдакцыі і чытачоў “Народнай волі”, усіх, хто любіць Вас і шануе, нізкі паклон і глыбокую ўдзячнасць за свой пісьменніцкі і грамадзянскі подзвіг, за ўсё, што Вы зрабілі, робіце і яшчэ зробіце дзеля Беларусі, дзеля ўзвышэння людскіх душ і сэрцаў. З юбілеем Вас, дарагі Чалавек! Зычым здароўя, дабра, новых творчых здабыткаў на радасць усім прыхільнікам Роднага Слова.**

**Гутарыла Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

ПУЛЬС

## “Залаты шлягер-2001” будзе скарочаны

**Сёлета плануецца на адзін дзень скараціць тэрміны правядзення 7-га Міжнароднага музычнага фестывалю “Залаты шлягер-2001”. Пра гэта заявіў мастацкі кіраўнік фестывалю Уладзімір Браілоўскі.**

Шэсць папярэдніх фестываляў праводзіліся ў Магілёве з 1 па 7 лістапада ўключна. Аднак у бягучым годзе з-за эканоміі фінансавых сродкаў “Залаты шлягер” пройдзе з 1 па 6 лістапада. Дэфіцытам сродкаў выкліканы і іншыя асаблівасці цяперашняга мерапрыемства. Так, напрыклад, пакуль не плануюцца традыцыйныя выязныя канцэрты артыстаў фестывалю ў райцэнтрах Магілёўскай вобласці; у праграме не пазначаны артысты з краін далёкага замежжа.

Паводле папярэдняй інфармацыі, канцэрты “Залатога шлягера-2001” пройдуць у Магілёве, Мінску, Гомелі і Бабруйску. Свой удзел у фестывалі ўжо пацвердзілі Іосіф Кабзон, Раймонд Паулс, Уладзімір Прэснякоў-малодшы, Аліса Фрэйндліх, Віргіліус Нарэйка, Эдзіта П’еха, Леў Лешчанка, рок-група ”Чайф” і іншыя вядомыя артысты і выканаўцы.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Кантроль за шаленствам

**У сувязі з узрастаннем у Еўропе захворвання жывёл на “каровінае шаленства” дзяржаўная ветэрынарная інспекцыя ўзмацніла кантроль за ўвозімай у Беларусь прадукцыяй на аўтапераходах праз мяжу.**

Як паведамляе Рэспубліканскі цэнтр здароўя, з-за няправільнага афармлення дакументаў сёлета былі затрыманы і вернуты 22 тоны ялавічыны з Германіі, 21,5 тоны марожанай свініны з Даніі, 2,5 тоны масла з Літвы і 26 тон — з Чэхіі. У ветэрынарным пасведчанні ці дэкларацыі вытворцы павінна быць зазначана, што пры вытворчасці прадукта не прымяняліся сыравіна або зыходныя кампаненты жывёльнага паходжання, якія могуць быць інфіцыраваны губкападобнай энцэфалапатыяй буйной рагатай жывёлы.

Аналагічныя патрабаванні фармакалагічны камітэт Міністэрства аховы здароўя Беларусі ўвёў у дачыненні да лекавых прэпаратаў і шоўнага матэрыялу, якія атрыманы з тканак жывёл, а з Дзяржаўнага рэестра лекавых сродкаў выключаны прэпараты, што атрымліваюцца з гіпофіза.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Для наведвання Балгарыі і транзітнага праезду спатрэбіцца медыцынская страхоўка

**З 1 снежня бягучага года грамадзяне Беларусі, якія будуць наведваць Балгарыю ці праязджаць транзітам праз тэрыторыю гэтай краіны, павінны мець абавязковую медыцынскую страхоўку.**

Як паведаміў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Павел Латушка, урад Балгарыі 24 жніўня прыняў пастанову аб абавязковым медыцынскім страхаванні замежных грамадзян і асоб без грамадзянства для ўезду і транзітнага праезду па балгарскай тэрыторыі. Гэтае правіла будзе дзейнічаць і ў адносінах да грамадзян Беларусі.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.**

## У паліклініцы выпісвалі лекі чалавеку, які даўно памёр

**У паліклініцы аддзяленчай бальніцы на станцыі “Магілёў” Беларускай чыгункі лячылі нябожчыкаў — такую выснову можна зрабіць на падставе прамежкавага акта праверкі, праведзенай у паліклініцы Камітэтам дзяржкантролю Магілёўскай вобласці.**

Выбарачная праверка амбулаторных картак пацыентаў, тых, хто памёр у апошнія пяць гадоў, устанавіла, што ўрачы гэтай медустановы працягвалі выпісваць лекі па ільготных рэцэптах ветэрану вайны — ён памёр у 1996 годзе. Мяркуючы па дакументах, некаторыя ўрачы на працягу апошніх пяці гадоў аглядалі гэтага пацыента, змяралі яму ціск, ставілі дыягназ, фіксавалі скаргі на галаўныя болі і ўздуцце жывата. Увесь гэты час яму выпісваліся ільготныя медыкаменты.

Ступень віны медыцынскіх работнікаў, якія дапусцілі парушэнні, будзе вызначацца ва ўстаноўленым законам парадку.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Школьный километр

**Свой “нулевой” километр имеет гомельская средняя школа №61.**

Здесь показано расстояние не только до важнейших столиц мира, но и до местных объектов, как, например, железнодорожный вокзал, указаны географические координаты школы. Сооружение успешно используется на уроках географии как учебное пособие.

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**




# Шайбу можно забросить и рукой. Но настоящей ли будет победа?

**Вся власть осталась в руках того, кто ее и не собирался отдавать. Выборы демократическая оппозиция, естественно, проиграла. Теперь будет подсчет ошибок и поиск крайних. Я же предлагаю посчитать раны на теле противника.**

Первое. Власть приучена к мысли, что запугать всех невозможно. Дело не в том, что были и добросовестные избирательные комиссии. Относительно добросовестные. Главное — был народный контроль. Тысячи независимых наблюдателей.

Миллионы граждан, придя на избирательные участки, видели, что, кроме официальных, подконтрольных властям комиссий, присутствуют люди, не имеющие к власти никакого отношения. И они контролируют (!) комиссии, то есть саму власть. Одно только присутствие независимых наблюдателей имело колоссальный воспитательный эффект. Это вторая победа демократии.

Третье. Наблюдатели не только пассивно присутствовали. С Избирательным кодексом в руках они наставляли на путь истинный членов комиссий в дни досрочного голосования, когда тлетворное влияние вышколенных властью председателей комиссий было незначительным. Хоть минимальное внедрение в сознание многих людей необходимости хоть как-то соблюдать закон, в частности, Избирательный кодекс — большое достижение для страны, в которой “закон — тайга” и “закон, что дышло — куда повернул, туда и вышло”.

Наблюдатели составляли и подавали письменные заявления о конкретных нарушениях Избирательного кодекса. С этими заявлениями пришлось разбираться председателям участковых и районных избирательных комиссий, ЦИК и даже прокурорам. Во власти находятся живые люди. Одно дело управлять бессловесным стадом, а другое — почувствовать хоть какую-то ответственность за свои действия. Надежда на пробуждение если не совести, то страха у власть предержащих среднего уровня — тоже победа демократии. Ведь одно дело — обманывать тех, кому все до фонаря, а другое — тех, кто этого не хочет, кто контролирует процесс обмана.

Теперь посмотрим на все это глазами победителя.

Он знает, что все, кого это интересует, знают, что он не избран. Все знают лишь одно — он победил. Знают наблюдатели, которых практически повсеместно не допустили наблюдать подсчет голосов. Знают общественные организации и партии. Знают журналисты. Знает интеллигенция. Знают соучастники: председатели комиссий, члены комиссий, дежурные милиционеры. Знают семьи соучастников. Знают их знакомые. Знают, в конце концов, ОБСЕ, Запад.

Можно, конечно, победить в хоккей, забрасывая шайбы рукой, доставая их всякий раз украдкой из потайного карманчика. Можно, если об этом никто не знает. Можно подкупить или заставить судью, чтобы он этого “не видел”. Но что делать со зрителями? С командой соперников? А со своей командой что делать? Они ведь знают! Поздравлять с победой будут, а вот уважать — не будут, батенька! Уважать не будут... Это очень важная победа честного поведения демократии на выборах — победителя не будут уважать свои же.

Кстати, а почему была заказана такая сокрушительная победа — совершенно неправдоподобные 75%? А это, чтобы утереть нос соседнему папе Карло. Наивный, уважения захотелось! Туземного уважения уже мало. Непонятно только, зачем для этого нужны были выборы? Все и так знают, кто у нас самый-самый-самый. Все его и так очень любят и очень уважают. Хоть и держат фигу в кармане, а не показывают...

Победа имеет и воспитательный эффект для победителя. Посудите сами, против него была объединенная оппозиция, единый кандидат, был мощный компромат, были наблюдатели, “зубры” и прочая, и прочая, и прочая... Ну и что, страшно? Нет, не страшно. И с этим, оказывается, можно жить. Достаточно “правильно”, *элегантно* подсчитать голоса. Или “не пущать” на телевидение. Или “пущать” только на Бангалор. Да мало ли методов держать оппозицию на коротком поводке!

Вывод для победителя: и с демократией можно жить. Она не страшная. Она не кусается. Из карманчиков шайбы не достает. Безобидная, а значит, имеет право на дальнейшую жизнь. Следовательно, конкретный проигрыш демократии на выборах обернется ее победой, победой ее духа. Разумеется — не на блюдечке с голубой каемочкой.

Подытоживая, можно сказать так: грязная победа власти — это чистая победа демократии.

**Борис ЛЕВИН,**
**наблюдатель от Общественного объединения "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скорины”.**

ДИСКУССИЯ

# Не мечите бисер перед свиньями...

**В номере “Народной воли” за 16 сентября прочитал темпераментную статью Александра Силича “Мораторий” — и изумился: ну до чего же в нас, либерал-демократах, живуча привычка находить простые и быстрые решения довольно сложных, трудноразрешимых задач “нашей бучи боевой, кипучей”?!**

А.Силич пишет: **“Давайте забудем о существовании одиозных и лживых программ на Белорусском телевидении, а кнопку ”БТ" на нашем телевизоре перенастроим на что-нибудь более-менее “съедобное” — “Си-Эн-Эн”, “Би-Би-Си”, ТВ-6, к примеру...".** Но не уподобимся ли мы в таком случае известным пернатым, которые имеют привычку в момент приближения опасности прятать голову в песок? Или же “премудрым пескарям” Салтыкова-Щедрина, которые всегда готовы, как когда-то немалая часть либерально-буржуазной интеллигенции, распространять вокруг себя “пустоту недомыслия”?

Следуя логике А.Силича, нам, объявившим “бойкот” Белорусскому телевидению (которое, кстати говоря, и у меня ничего другого не вызывает, кроме досады и отвращения), следовало бы перестать ходить в театры, кино, на концерты, стадионы, выставки, всевозможные презентации и пресс-конференции, ярмарки, рынки, в магазины, библиотеки, парикмахерские, бани... Потому как там, в том или ином “образе”, в “соответствующей концентрации” — тот же спертый дух “режима”.

Допустим, следуя призыву и примеру Силича, определенная часть наших трезво мыслящих, незамордованных, незатурканных, незомбированных циничной, глубоко безнравственной пропагандой граждан, возможно, и перестанут смотреть остобрыдлое, много раз освистанное и оплеванное БТ. Но “першы нацыянальны тэлеканал” то ли от скуки, замотанности, то ли от равнодушия, то ли по укоренившейся совковой привычке, то ли в силу административно-командного ресурса будут продолжать смотреть сотни тысяч, миллионы людей — вместе с детьми! — на селе, в Богом забытых Хойниках, Бузунах и Романах, многие наши дедушки и бабушки (вместе с нашими внуками и внучками!), которых уже не выпрямить и не переубедить, солдатики в казармах под строгим присмотром отцов-командиров в “часы политмассовой работы”, доблестная “гвардия” вертикальщиков, которых начальство уже заставляет конспектировать речи и выступления “всенародноизбранного”, легионы тупоумных юнцов и их ветреных, таких же невзыскательных к себе и к другим подружек, впадающих в нирвану при одном лишь упоминании слов “Киркоров”, “Губин”, “Валерия”, “Земфира”, “Мумий Тролль”, “Отпетые мошенники”, “Руки вверх!” и прочей “попсы”, которой БТ столь целеустремленно потчует и молодых, и пожилых...

Что же я предлагаю взамен “блокады” БТ? Бороться за него. Воевать. Сражаться. Так, как бьется, воюет за свои права, за свое человеческое и профессиональное достоинство уважаемый Валерий Алексеевич Щукин — дай Бог ему здоровья! Отдавать просто так, за здорово живешь, столь лакомый кусок ОБЩЕНАРОДНОЙ, ОБЩЕНАЦИОНАЛЬНОЙ СОБСТВЕННОСТИ, содержащейся на деньги граждан-налогоплательщиков — не слишком ли? Давайте очень сильно постараемся сделать НАШЕ ТЕЛЕВИДЕНИЕ ДРУГИМ: демократическим, совестливым, цивилизованным, человеческим, благородным, интересным... Кое-кто, возможно, с ехидцей ухмыльнется: эка, дескать, Ольховой размечтался! Это кто же, Лукашенко, что ли, позволит сделать наше телевидение совершенно другим?

Да, не позволит, если мы будем и далее молчать в тряпочку, спокойно созерцая ту агитационно-пропагандистскую блевотину, тот глумливый выпендреж, которым потчуют нас и наших детей ежедневно те же зимовские, козиятки, ермошины, лозовики, азаренки, новиковы, ковалевы, чайки и прочие. Президентские выборы мы, похоже, “сдали”. Так давайте постоим хоть за телевидение! Оно же априори, конституционно — наше, н а р о д н о е. А отнюдь не вотчина, не приватная лавочка Лукашенко. **Нам решать его судьбу.** Вплоть до всенародного референдума, свободного, не зависимого от власти.

Для начала попросим вроде бы демократов в “нацсходе” Абрамову, Машерову, Новосяда инициировать этот вопрос перед своими коллегами-законодателями, что явится хорошим “индикатором” их, прошу прощения, морально-этической, профессиональной вшивости... Надо бы нам всем помнить слова Евангелия: “Не давайте святыни псам и не бросайте жемчуга (**церк.-слав. б и с е р**) вашего пред свиньями, чтобы они не попрали его ногами своими и, обратившись, не растерзали вас”.

**Александр ОЛЬХОВОЙ.**

